# БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА



*Рэдакцыя часопісі «Беларуская Зарніца» зварочваецца да ўсяго паважанага грамадзянства з просьбай аб дапамозе нам у справе пашырэньня «Беларускае Зарніцы» сярод Беларускага, а перадусім праваслаўнага, грамадзянства.*

*„Беларуская Зарніца“ ўсебакова будзе высьвятляць царкоўнае, соцыяльнае, культурнае, гаспадарчае і палітычнае жыцьцё Беларускага народу з пункту гледжаньня рэлігіі.*

*«Беларуская Зарніца» цьвёрда стаіць на здаровым грунце Саборнасьці ў Царкве і неабходнасьці склікаіньня Сабору Праваслаўнай Царквы ў Польшчы.*

Год выданьня II. **Цана нумару 40 гр.**

# БЕЛАРУСКАЯ ЗАРНІЦА

**Царкоўна-Народны двутыднёвік**
**Орган Праваслаўных Беларусоў.**

1-15 сакавіка 1929 году

**Падпісная цана:**
за 1 месяц — 80 гр.; за 3 месяцы — 2 зл. 40 гр.;
½ г.—4,50, 1 год—8 зл.

**№ 3 (11)**

**Адрэс рэдакцыі:** Вільня, вул. Летняя № 7.

## Рэлігія і нацыяналізм.

Два факты мелі і маюць вялікае значэньне ў жыцьці кожнага народу: рэлігія і нацыяналізм.

Нацыяналізм—гэта любоў да свайго народа, да свае бацькаўшчыны, да свае роднае дзяржавы, да створаных і здабытых, часта з вялікімі высілкамі і мукамі, асаблівасьцяў жыцьця, якія народ адчувае як свае родныя і дзеля гэтага, для яго дарагія.

І гэта любоў не пасыўная, а шчырая, вымагаючая творчых высілкаў, часта ахвяры, падчас нават аддачы свайго жыцьця.

Нацыяналізм — гэта індывідуальнасьць цэлага народу і творчая любоў да гэтае індывідуальнасьці.

Хрысьціянства благаслаўляе асабістую індывідуальнасьць. Ад рожніцы індывідуальнасьцяў залежыць вялікая паўната міра.

Чалавек ідзе правідловым шляхам, калі ён разьвівае свой талянт. Калі-ж ён гэтага ня робіць — дык ня выконвае волі Бога.

Разьвіцьцё свайго дара і свае індывідуальнасьці ня толькі апраўдываецца хрысьціянствам, але зьяўляецца хрысьціянскім догматам, за невыкананьне якога пагражае кара.

Усё тое, што паводле хрысьціянскае маралі зьяўляецца абавязкам для індывідуальнасьці асабістай,—у поўнай меры зьяўляецца такім-жа абавязкам для індывідуальнасьці грамадзкай.

Нацыяналізм гэта дар, дадзены цэламу народу, і дзеля гэтага ён злучае народ у адзіны арганізм, ня глядзячы на індывідуальныя асаблівасьці паасобных адзінак. Як ад паасобнага чалавека правідловы хрысьціянскі шлях вымагае разьвіцьця свайго дара, так і ад цэлага народа вымагаецца разьвіцьцё яго агульна-грамадзкага дара.

Запраўдны нацыяналізм не супярэчыць сусьветнасьці, а наадварот: шлях да сусьветнасьці ляжыць там: праз нацыяналізм.

„Ашче кто речет, яко люблю Бога, а брата сваяго ненавидзіт: ложь есть: ибо не любяй брата сваяго, его же видзе, Бога, Его же не видзи, како может любить?“

Дзеля гэтага хрысьціянства ня прызнае адцягненае любві да далёкіх, пры адсутнасьці яе да блізкіх. Яно прызнае канкрэтную, рэальную любоў да рэальных, блізкіх асобаў. І толькі гэтая канкрэтная любоў, паступова пашыраючыся, адчыняе сваі аб'яцьці ўсяму міру: элліну

і іудэю, абрэзанаму і неабрэзанаму варвару і скіфу, рабу і валадару.

Нацыяналізм натуральна заложаны ў чалавека. Ен ёсьць такое-ж нармальнае зьявішча для здаровага чалавека, як любоў да сваіх родных, да свае сям'і. І як усё звычайнае, ён не адкідываецца, а сьцьвярджаецца хрысьціянствам.

Дзеля гэтага, чалавек, адкідаючы нацыянальнасьць, адкідае нацыянальны дар, зьяўляецца крывадушным рабом, ня выконваючым сваяго назначэньня. Такі чалавек ухіляецца ад дапамогі сваяму народу ў выкананьні ім сусьветнае задачы — павялічэньня агульнае духовае скарбніцы народу праз паглыбленьне і пашырэньне самабытнага нацыянальнага дару.

Вось чаму праваслаўная царква прызнае прыродны падзел і будаваньне краявых царквоў па нацыянальнаму прынцыпу. Праваслаўная дактрына выходзіць з тае засады, што хрысьціянства мае прасьвяціць сваёй высокаю маральлю. ўсе народы, а дзеля гэтага яно не пярэчыць натуральнаму падзелу людзей на нацыянальнасьці. „Ідзіце", сказаў Хрыстос апосталам, „навучыць усе народы".

Гісторыя пашырэньня хрысьціянства сьведчыць нам, што сьв. апосталы спачатку прапаведывалі Эвангельлэ пераважна ў галоўных гарадох, кіруючыся думкаю, што з гарадоў хрысьціянства пашырыцца і на ваколіцы. Такой-жа тактыкі прытрымліваліся і наступнікі апосталаў. Праз гэта галоўныя гарады таго ці іншага народу, што былі яго адміністрацыйнымі асяродкамі, сталі і духоўнымі цэнтрамі народаў.

Нацыянальнае жыцьцё разьвіваецца тады, калі адна з найважнейшых галінаў духовага жыцьця народу — галіна рэлігійная — праводзіцца на груньце нацыянальным.

У адпаведныя моманты народнага жыцьця царкоўна-нацыянальнай справе надаецца вялікае значэньне; каля яе вядзецца вострая барацьба. Царква становіцца ворганам нацыянальнае творчасьці. Асабліва гэта трэба сказаць пра перыяды вызваленяга руху тае ці іншае нацыі.

Практычнае значэньне рэлігійнага чыньніка выяўляецца ў тым, што ён даходзіць да найінтымнейшых старон народнае душы, уплывае аднолькава як на дарослых, так і на дзяцей, на ўсіх, — нават найглухшых закуткаў краю, — ўсюды дасягае яго чыннасьць.

Як ведама з гісторыі беларускага і ўкраінскага народаў на грунце рэлігійна-царкоўным базіравалася барацьба ня толькі за веру, але і за нацыянальнасьць. „Руская вера" была лёзунгам для змаганьня за нацыю, і пад гэтым лёзунгам была ўратавана ня толькі вера, але беларуская і ўкраінская нацыянальнасьць. У гісторыі іншых народаў мы бачым тыя самыя факты.

Калі існуе такая цесная сувязь паміж рэлігіяй і справай нацыянальнай — дык зусім нармальным зьяўляецца і тое, што чалавек рэлігійны павінен быць нацыяналістам, а нацыяналіст павінен быць чалавекам рэлігійным. Зразузумела, што запраўдны нацыяналізм нічога супольнага ня мае з шовінізмам.

Прарок апошняга часу, вялікі Дастаеўскі, вуснамі сваяго гэроя Шатава так кажа па гэтаму пытаньню: „Вы мала таго, што праглядзелі народ, а з амерзіцельнай пагардаю адносіліся да яю, а ў каго няма народа, у таго няма і Бога.

Ведаеце напэўна, што ўсе тыя, якія перастаюць разумець свой народ і траціць з ім сувязь, адначасна з гэтым трацяць і родную бацькаўскую веру, становяцца або атэістамі, або раўнадушнымі. Вось дзеля чаго, і вы ўсе і мы ўсе цяпер або гнусныя атэісты, або раўнадушныя, развратная дрэнь і нічога больш... Ніколі гэтыя людзі ня любілі народу, не пакутавалі за яго і не прынясьлі за яго ніякое ахвяры.

Людзі гэтыя страцілі рожніцу паміж дабром і злом, дзеля таго, што перасталі свой народ знаць".

Гэтыя словы Дастаеўскага могуць быць прыстасаваны і да сучаснага становішча беларускага народу, калі запраўды мы зыходзім з гэтага адзінага моцнага грунту пры будаваньні бацькаўшчыны — грунту рэлігійна-нацыянальнага. Іншага грунту, які-бы для дабра агульнае справы, злучыў-бы нас, мы ня знойдзем.

Толькі стаючы на гэтым грунце, мы запраўды дасягнулі-бы агульнае згоды. Толькі стаючы на гэтым грунце, мы шчыра ў аб'яднаньні з усім грамадзянствам маглі-бы сказаць: „Слава ў вышніш Богу, бо на нашай вацькаўшчыне мір і згода і дзеля гэтага ва ўсіх нас благаваленьне.

**А. К.**

---

# Малітва.

О, Божа вялікі, о Збаўца расьпяты!
Пачуй ты мой голас, малітву гарачу!!!
Малюся на раны, на матчын боль плачу —
Маю споўні просьбу о, Божа Усесьвяты.

Малюся Табе я, прашу Цябе корна —
Вазьмі мае шчасьце, вазьмі маю долю,
Цярпячым Іовам зрабі з Сваёй волі,
Зоў выслухай толькі з гадзіны Ты чорнай!

Вясну забяры мне і прамені сонца,
Адны няхай бачу ляды я вакола,
Век — вечна, да сьмерці з зямелькаю голай —
Ды выслухай толькі малітву прад концам!

Малюся Табе я і крыжам кладуся,
Сашлі мне прад сконам забыцьця хвіліну,
— Хай вольным сайду я ў сырую яміну,
Хай вольнай убачу я сьцяг Беларусі!!!

Малюся на мукі расьпяцьця, цярпеньні,
Сашлі з неба голас прад сьмерці гадзінай,
—Што край мой старонкай ўжо вольнай, адзінай,
Што брат мой загнаны сьвяткуе збаўленьне!

Малюся Табе я, прашу ўсёй душою —
Хай сьмерць крывічом я спаткаю свабодным,
— Каб радасьць разьлілась па целе халодным,
Што стоптаны буду нагой ня чужою!!!

О Божа Вялікі! О, Збаўца расьпяты!
Пачуй ты мой голас, малітву гарачу!!!
Малюся на раны, на матчын боль плачу —
Маю споўні просьбу о Божа Усесьвяты!!!

*С. Сарока.*

Вільня, люты 1929

---

# Аб папскай непагрэшнасьці.

## Прамова япіскапа Штросемайера, сказаная ў 1870 г. на Ватыканскім саборы, на якім пад старшынством Папы Пія IX абсуджвалася пытаньне аб папскай непагрэшнасьці.

(Працяг).

Я сказаў, што з самых першых стагодзьдзяў рымскі патрыярх імкнуўся да панаваньня над усёй царквой. На жаль, ён амаль дасягнуў гэтага, але ня зьдзейсьніў усіх сваіх плянаў, бо імпэратор Хвядосі VI паставіў законам каб канстантынопальскі патрыярх меў аднолькавую ўладу з рымскім. Айцы халкідонскага сабору паставілі япіскапаў новага і старога Рыму ў тое самае палажэньнэ адносна ўсіх спраў, нават царкоўных (прав. 28). Шосты карфагэнскі сабор забараніў усім япіскапам прымаць тытул князя ці вышэйшага япіскапа.

Што датычыць тытулу сусьветнага япіскапа, які пранялі папы пазьней, дык сьв. Рыгор I, думаючы, што яго наступнікі ніколі ня ўздумаюць аздобіць сябе ім, напісаў наступныя словы: Няхай не жадае ні адзін з паміж наступнікаў прыняць гэтае нягадзівае імя, бо калі які-небудзь патрыярх прысвоіць сабе назоў сусьветнага, дык тытул патрыярха страціць сваю вагу. А дзеля гэтага няхай хрысьціяне чураюцца жаданьня прысвоіць сабе тытул, які выклікае недавер'е да іх братоў. Словы сьв. Рыгора былі скіраваны проціў яго канстантынопальскага брата, які прэтэндаваў на пяршэнства ў царкве. Папа Пелагій VI называе канстантынопальскага япіскапа, Іаана, які імкнуўся да вярхоўнага сьвяшчэнства, бязбожным і негадзівым. Не клапаціцеся, казаў ён, аб тытуле „сусьветны", які незаконна прысвоіў сабе Іаан, няхай ніхто з патрыярхаў не бярэ гэтага негадзівага назову, бо чаго нам жадаць, калі ў сфэры сьвяшчэннаслужыцеляў зьяўляюцца падобныя імкненьні? Над намі збудзецца тое, што было прадсказана: ён ёсьць князь сыноў гордасьці.

Гэтыя аўтарытэтныя доказы, а я магу іх прывесьці больш сотні, ці-ж не даказваюць ясьней сонечнага сьвету ў полудзень, што першыя рымскія япіскапы ніколі ня былі прызнаны за сусьветных япіскапаў і глаў царквы? І з другога боку, хто ня ведае, што з 325-га году, у якім быў сабраны першы нікейскі сабор, да 680 году, у якім быў склікаты другі канстантынопальскі сабор, паміж больш, як 1109 япіскапамі, быўшымі прысутнымі на шасьцёх першых сусьветных саборах, заходніх япіскапаў было ня больш 19 чалавек.

Хто ня ведае, што гэтыя саборы склікаліся імпэратарамі без абвяшчэньня, а часам проціў згоды япіскапа? Можа вы скажаце, што Асія, япіскап кардоўскі, быў старшынёй на першым нікейскім саборы і выдаў яго пастановы. Але той-жа самы Асія пасьля быў старшынёю на сардынскім саборы, на якім між іншым быў адсутным лягат Юлія, япіскапа рымскага. Не кажу балей, пачэсныя браты, а пераходжу цяпер да моцнага доказу, на які вы абаперліся ўперад дзеля сьцьвярджэньня главенства рымскага япіскапа.

Пад каменем (petra), на якім заснавана сьв. царква, вы разумееце Пётру (Petra). Калі-б гэта было запраўды так, дык спрэчка канчалася-б; але нашыя продкі—а яны, бязумоўна, нешта ведалі, думалі ня так, як мы. Сьв. Кірыла ў сваёй чацьвертай кнізе аб Сьв. Тройцы кажа: Я думаю, што пад каменем мы павінны разумець цьвердую веру апосталаў. Сьв. Іларый, япіскап пуацьескі, у сваёй другой кнізе аб сьв. Тройцы кажа: камень (petra) ёсьць благаслаўлёны і адзіны камень веры, слаўляны вуснамі сьв. Пётры і ў шостай кнізе аб Сьв. Тройцы ён кажа: на гэтым камені

хвалы веры заснавана царква. Бог, па слову сьв. Гераніма (у шостай кнізе на єчв. эвангеліста Мацьвея), заснаваў сваю царкву на гэтым камені, і ад гэтага каменя апостал Пётра атрымаў свой назоў. Пасьля яго сьв. Златавуст у пяцьдзесят трэцяй гутарцы на эвангеліста Мацьвея кажа: на гэтым камені Я заснаваў царкву Маю, г. зн. на веры. Цяпер, якая-ж была вера апостала? Ты, Хрыстос Сын Бога Жывога. Амбросі, сьв. япіскап медзіаланскі (ў тлумачэньні другой главы пасланьня да Ефесеяў), сьв. Васіль Селеўкійскі і айцы сабору халкідонскага вучаць гэтак сама. З усіх вучыцялёў хрысьціянскае старадаўнасьці сьв. Аўгустын займае адно з першых мяйсцоў па вучонасьці і сьвятасьці; і вось, паслухайце таго, што ён піша ў сваім другім трактаце на першае пасланьне сьв. Іаана: што значаць словы: Збудую царкву Маю на гэтым камені? Яны азначаюць — на гэтай веры, — на тых словах: **Ты Хрыстос Сын Бога Жывога** У 124 гутарцы на сьв. Іаана знаходзім наступны выраз: на гэтым камені твае веры я збудую царкву Маю—камень-жа быў Хрыстос. Вялікі япіскап так мала верыў, што царква была заснавана на сьв. Пётры, што ў сваёй трынадцатай гутарцы з верными сказаў наступнае: ты Пётра і на гэтым камені (petra) твае веры, на гэтым камені слоў тваіх: **Ты Хрыстос Сын Бога Жывога,** я збудую царкву Маю...

Пагляд сьв. Аўгустына на гэтае мейсца быў паглядам усяго тагачаснага хрысьціянства. А дзеля гэтага для кароткасьці, я выказваю наступныя палажэньні:

1. Іісус Хрыстос даў апосталам тую самую ўладу, як і сьв. Пётры.

2 Апосталы ніколі не прызнавалі Пётру заступнікам Іісуса Хрыста і непагрэшным вучыцелям царквы.

3. Сьв. Пётра ніколі ня думаў быць папаю і ніколі ня дзеяў, як дзеюць папы.

4. Саборы чатырох першых стагодзьдзяў, прызнаваючы высокае палажэньне, занятае рымскімі япіскапамі ў царкве дзякуючы павазе Рыму, надавалі яму толькі пяршэнства чэсьці,— але ніколі пяршэнства юрысдыкцыі.

5. Сьв. айцы ў словах: **Ты Пётра і на гэтым камені Я збудую царкву Маю,** ніколі ня думалі знаходзіць той сэнс. што царква заснавана на Пётры (super Petrum), але на камені (super petrum), г. зн. на веры апостала.

Я ўрачыста заключаю на падставе дадзеных гісторыі, розума, лёгікі і хрысьціянскага сумленьня, што Іісус Хрыстос ня даў ні якога главенства сьв. Пётры, і што рымскія япіскапы зрабіліся ўладыкамі царквы ня іначай, як падаўляючы паступова адно за другім усе правы япіскапства (Галасы: „змоўкні, бясcовесны пратэстант!“).

Я не бясcовесны пратэстант. Не, тысячу разоў не! Гісторыя ня ёсьць каталіцкая, ці англіканская, ці кальвіністычная, ці лютэранская, ці грэцкая, ці армянская, ці ультрамонтанская. Яна ёсьць тое, што ёсьць, — г. зн. мацней усіх вызнаньняў веры і законаў сусьветных сабораў (?). Пішыце проціў яе калі адважыцеся! Але вы ня можаце зьнішчыць гістарычных фактаў, гэтак сама, як выняўшы з Колізея які-небудзь камень, ня можаце праз гэта разбурыць усяго будынку. Калі я сказаў што-небудзь гістарычна неправідлова, дакажыце мне гэта на падставе гістарычных дадзены, і, не застанаўліваючыся ні на хвіліну, я гатовы чэсна бараніцца; але будзьце цярплівымі і пабачыце, што я сказаў ня ўсё, што жадаў і што павінен быў сказаць; і калі-б нават мне гатовілася сьмерць на вогнішчы на пляцы сьв. Пётры, я не павінен маўчаць, але мушу высказаць усё.

Монсіньор Дзюпанлу ў сваіх ведамых заметках па поваду гэтага нашага сабору сказаў, і зусім справядліва, што калі мы прызнаем Пія IX непагрэшным дык у сілу лёгікі мусім прызнаць непагрэшнымі і ўсіх яго папярэднікаў. Добра! Але тут, пачэсныя браты, гісторыя падае свой аўтарэтытны голас у доказ таго, што за некаторымі папамі былі вялікія грахі. Вы можаце пратэставаць процiў гэтага, ці адмаўляць гэта, як сабе хочаце, але я гэта дакажу. Папа Віктар (192) спачатку адобрыў монтанізм, а потым... асудзіў яго. Марцэлін (296-303) быў ідалапаклоньнікам. Ен увай-

шоў у храм Весты і прынёс ахвяру багіні. Вы скажаце, што гэта была справа слабасьці; але я адкажу: наступнік Ісуса Хрыста памірае, але ня робіцца адступнікам. Лібэрый (358) згадзіўся на асуджэньне Апанаса і адважыўся прыняць арыянства дзеля таго, каб яго выклікалі з ссылкі і зьвярнулі кафедру. Гоноры (625) прытрымліваўся монофеліцізма, што было даказана айцом Гратры. Рыгор I (950-608) называе таго антыхрыстам, хто бярэ на сябе тытул сусьветнага япіскапа, і ня гледзячы на гэта Боніфат III (607-608) змусіў атцабойцу імпэратара Фоку даць сабе гэты тытул. Пасхалі II (1098 1118) і Аўгеня III (1145 1153) аблобрылі дуэлі; Юлі II (1509) і Пій IV (1560) забаранілі іх. Аўгеня IV (1431-1439) прызнаваў базэльскі сабор і ўжываньне чашы ў богемскай царкве. Пій VI (1458) зьнішчыў гэты прывілей. Адрыян VI (867-832) абвесьціў цывільныя шлюбы законнымі; Пій VII (1800 1823) не прызнаваў іх. Сікст V (1585-1590) абнародаваў выданьне Біблії і дазволіў яе чытаньне. Пій VII забараніў чытаць яе. Клімэнт XIV (1769 1774) зьнішчыў ордэн езуітаў, дазволены Паўлам III; Пій VII аднавіў яго.

Але пашто шукаць доказаў гэтак далёка? Сьвяцейшы айцец наш, тут прысутны ў сваей буле, зьмяшчаюшчай правілы гэтага сабору, ці-ж ня зьнішчыў на выпадак свае сьмерці падчас паседжаньняў сабору, тое, што ў мінулым магло быць спрэчным яму, нават пастановы сваіх папярэднікаў? Я-б ніколі няскончыў, пачэсныя браты, калі-б захацеў вылічаць усе спрэчнасьці папаў у іх вучэньні. І, так, калі вы абвяшчаеце непагрэшнасьць запраўднага папы, дык вы павінны ці давесьці немагчымае, г. зн., што папы ніколі ня былі ў спрэчнасьці адзін з другім, ці заявіць, што па адкраленьню Сьв. Духа, непагрэшнасьць папства мае свой пачатак толькі ў 1870 г. Ці адважыцеся зрабіць гэта?

Просты народ вельмі лёгка можа пакідаць бяз увагі тыя багаслоўскія цытаньні, якіх не разумее і якім не надае вялікае вагі; але як-бы няўважна ні адносіўся ён да рэлігійных пытаньняў, адносна фактаў ён захоўваецца іначай. Цяпер не абальшчайце сябе. Калі вы падпішаце догмат аб папскай непагрэшнасьці, дык нашыя ворагі — пратэстанты тым адважней падымуць свой пратэст, бо яны маюць на сваім баку гісторыю, а мы маем толькі нашую ўласную адмову. Што мы скажам ім, калі яны выставяць перад намі ўсіх рымскіх япіскапаў аж да яго сьвяцейшасьці Пія IX? Ах! — калі-б яны ўсе былі, як Пій IX, мы маглі-б высока трымаць головы, —але на жаль гэта ня так. (Галасы: „Замаўчы, замаўчы, хопіць, хопіць"). Ня крычыце, монсіньоры! Баяцца гісторыі, значыць лічыць сябе пераможанымі; ды й апрача таго, калі-б вы нават вылілі на яе ўсю ваду Тыбру, дык і гэтым ня змылі-б у ёй ні аднаго радка. Дазвольце мне гаварыць, я пастараюся як мага карацей высьветліць гэтае важнае пытаньне.

Папа Вігілі (538) купіў папства ў Вялізарыя, палкаводца імпэратара Юстыніяна. Бязумоўна, праўда і тое, што ён ня выканаў дадзенага абяцаньня і нічога не заплаціў за яго. Ці-ж згодна з апостальскімі пастановамі купляць тавару? Другі халкідонскі сабор аканчальна забараніў гэта. У адной з пастановаў чытаем наступнае: япіскап, атрымліваючы свой сан за грошы, павінен быць пазбаўлены гэтага і адлучаны. Папа Аўген III (у арыгінале IV) (1145) рабіў падобна Вігілію. Сьв. Бэрнард, бліскучая зорка сваяго веку, карыў папу наступнымі словамі: „ці можаш ты паказаць мне ў гэтым вялікім горадзе Рыме якую-небудзь асобу, якая прызнае цябе за папу, калі толькі яна ня была падкуплена золатам ці серабром?"

Пачэсныя браты! Ці-ж будзе натхнёным Сьв. Духам той папа, які гандлюе пры дзьвярох храма? Ці-ж мае ён права вучыць царкву непагрэшна?

Вы вельмі добра ведаеце гісторыю Формоза, каб дадаваць да яе што-небудзь. Сьцяпан VI загадаў выкапаць яго цела, адзець у папскае адзеньне, пальцы, якія ён складаў для благаслаўленьня, адрэзаць, — і потым кінулі яго ў Тыбр, абвесьціўшы клятвапраступнікам і беззаконным. За гэта ён пасьля быў пасаджаны ў вастрог, атручаны і задушаны. Але глядзіце, як выпала справа пасьля.

Раман, наступнік Сьцяпана, і пасьля яго Іаан X адновілі памяць Формоза.

Але вы скажаце мне — гэта байкі, а не гісторыя. Байкі! Пайдзіце, монсіньоры, у ватыканскую бібліатэку і прачытайцэ Платына, гісторыка папства і летапісы Баронія. Гэта такія факты, якія для чэсьці папскага пасаду ня варта было-б абвяшчаць; але калі рэч ідзе аб нававувядзяньні такога догмату, які можа зрабіць у нашай сфэры вялікі падзел, дык няўжо-ж любоў да сьв. Царквы, кафалічнай, апостальскай і рымскай—павінна зачыніць нашыя вусны? Вучоны кардынал Бароній, кажучы аб папскім двары, зазначае (зьвярніце на гэта асаблівую ўвагу) чым была рымская царква ў гэтыя дні. Якая яна няслаўная! У Рыме кіруюць толькі ўсемагутныя прыдворныя. Яны то прадаюць, то мяняюць і купляюць япіскапства і, страшна сказаць, яны адважваюцца ўзводзіць на пасад сьв. Пётры сваіх фаварытаў лжэ-папоў (Бароній 912).

—) Працяг будзе (—

*Рэдакцыя „БЕЛАРУСКАЕ ЗАРНІЦЫ“ ветліва просіць сваіх паважаных чытачоў прысылаць падпісную плату.*

## На прадвесьні.

Рушыўся сьнег. Зашумела вада.
Раскаваліся рэкі ад лёду.
Лынула вон зімавая вада.
Сонца прыносе цяпло і пагоду.
Шумныя песьні іграюць лясы.
Павее вятрок усплаваты.
Белая ніва ад сьнежнай расы
Убіраецца ў чорныя латы.
Зморана трушанкай ў цёмных хлявох,
Адзываецца рыкам скацінка.
Конікі ў стайнях іржаць пры жлабох.
Бацян праляцеў над адрынкай.
Будзіцца посьле зімовага сну
Па хацінках люд працавіты,
Скоранька цягне саху, барану,
Глядзіць шыны на колах, ці зьбіты.
Высыпле гэты на поле народ
І сеяць будзе сьвянцонае збожжа.
Добры ўраджай, спорны ўмалот
Працавітым людзям пашлі, Божа!

**Я. Купала**

# На парозе 1386 году.

Высока й няпрыступна ў Крэўскім замку сьцяна, а Ягайлава старожа непадкупна. Закутаўшыся ў касматыя кажухі, ходзяць як дзень так ноч прысадзістыя фігуры ўкруг сьцен і пільным вокам паглядаюць наўкола. Злыя вочы ярка блішчаць з-пад касматых шапак высокіх, ногі цяжка чмякаюць па ліпкай гразі, нямецкі меч прыкра ў тахт стукае па назе, але вартаўніка ня мучаць яны. Закінуўшы поўны стрэлаў стары калчан за плечы, соты бадай раз ідзе ён сягодня па адным і тым самым мейсцы.

Хто й адкуль ёй? — Дарэмна пытацца, — аб гэтым ня ведае на‘т хітры, крывадушны Ягайла, што паслаў людзёў гэтых сюды, сьцерагчы Кейстута й Вітаўта. Айчына іх там, дзе ім добра жывецца, пан і загадчык іх той, хто шчорда ім плаціць. За коўш хмельнага пахнючага мёду і бліскучы грашак верна служаць яны хоць каму. І сланяюцца яны па сьвеце з месца на месца, абыйшлі ўсю Польшчу, былі ў Мальборгу, гулялі ня раз і па Маскоўшчыне. Агнём, крывёй, сьлязьмі значыцца гэтая сьцежка па сьвеце шырокім, плач і праклёны нясуцца за імі ў здагон, ад жальбы стогнуць лясы і трасецца зямля, але сэрца гэтых ваякаў ім няпрыступнае.

Знае аб гэтым і Ягайла і ў Крэва прыслаў ён іх не дарма, не дарма ён плаціць ім шчодра, а верныя слугі яго — Проныша, Кучук, Лісіца Жабянцяй і Мосьцеў брат—ня спушчаюць іх з свайго вока.

Кейстут, у абыймө зацікнутай імі шорсткай вяроўкі, даўно ўжо пайшоў к богу прэдкаў. Цяпер сьцерагуць яны поўнага сілы й гарту Вітаўта князя.

Вітаўт у палоне ў брата Ягайлы. Высокі й моцныя сьцены Крэўскага замку, а старожа непадкупная. А ўсё ж такі ня сьпіцца Ягайлу. Вітаўтава імя ўладна лунае над „Літвою*), на ўспамін аб ім дрыжаць Трокі, Полачак, Гарадзень, Берасьце... і нават Вільня.

Як мора ў буру, хвалюецца ўсё ў гаспадарстве Ягайлавым; яшчэ адзін магутны ўзьдзьмух ветру з чыйгось боку і хваля народнага гневу захлясьне й змые яго ў бяздонную пропасьць.

— „Дзе шукаць апоры, у чым найці ратунак?“... пытае сябе ён, ходзячы ўзад і ўпярод па вялікім пакоі Віленскага замку.

Глуха аддаюцца цяжкія крокі па хаце, на вогнішчы ярка гарадь сухія дровы, сілючыся асьвяціць усё, што ёсьць у хаце. Дарэмны аднак жыльяньні — не асіліць гэтаму агню доўгіх усіх ценяў, што густа ляглі па кутох.

І пнуцца цені адзін за адным увысь і ўдоўж, кожную часіну дрыжаць яны і калышуцца, а з імі розныя думкі ціснуцца у галаву Ягайлы, думкі, грозныя, невясёлыя — як мары, ак сьмерц...

— „Кейстут ужо не стаіць на дарозе, але Вітаўт“... прагаварыў ён, і зноў зашагаў па хаце. „Пакуль жыў Вітаўт, не я гаспадар усемагутны Літвы й Русі. Ен, як нечысьць якая, стаіць на маёй дарозе нават і цяпер, седзячы ў Крэўскім замку ў палоне“...

„Княжа мой найласкаўшы, што думаць доўга—Вітаўта скора й лёгка супакоіць: адно твае князеўскае гаспадарскае слова і Вітаўт на заўсёды шчэзьне з дарогі“... пачуўся раптам голас у хаце.

Ягайла ўздрыгнуў і агдянуўся. Сярод хаты стаяў яго даўнейшы слуга Лаўрын Вайдзіла, а цяпер сваяк — родны брат швагры Ягайлавага.

— „Ведаю гэта“, адказаў яму Ягайла, „але што скажуць на гэта ўсе іншыя князі“...

„Княжа, яны твайго голасу слухаць павінны, але ня ты іхняга“...

„Князеўскі голас чуцен толькі тады, калі ёсьць сіла заставіць пакарацца гэтаму голасу... А дзе-ж мая сіла, дзе мае войска, з якім мог-бы змусіць усіх шанаваць мяне?“

„А ці, як жыў Вітаўт, цябе княжа, слухаюць лепш?...“

*) Літвой у старыя часы звалася Беларусь.

„Прынамся няма буры, якая была навакол пасьля сьмерці Кейстута і чуць нас ня згубіла"...

І Ягайла задумаўся ўзноў, а Лаўрын Вайдзіла, ня хочучы яго разгнявіць і спракудзіцца, вышаў з хаты.

* * *

Вэцер рагоча, вые і жаласна плача ў байніцах таўстых сьценаў Крэўскага замку. Холад нялюд лезе да людзёў пад адзэжу, паўзе ў кожную хату; чалавека апаноўва страх перад усемагутнай прыродай; хочацца схавацца як найдалей у цёплы куток, каб не акалець у гэтую васеньнюю пару і ня згінуць.

У каморы цямнічнай гэтага замку на засланай мядзьвежай скурай пасьцелі сядзіць княжна Смаленская Ганна, жонка князя Вітаўта. Вачыма поўнымі сьлёз сочыць яна за мужам сваім, што ў цяжкой задуме ходзіць узад і ўпярод па каморы.

Смутна й крыўдна маладой княгіні сядзець. Ці думала яна, ідучы замуж за прыгожага слаўнага Вітаўта, першага й найслаўнейшага ваякі „Літвы", што яна калісь з ім будзе сядзець у няволі ў вераломнага, трусьлівага і ўсімі пагарджанага Ягайлы, што яе сьвекар, слаўны Кейстут, згіне ад рук падасланых ім разбойнікаў?... А ці ня тое ж самае чакае іх?...

— „Не, не!"... прагаварыла яна ціха сама да сябе. „Вітаўт за ўсякую цану мусіць стаць вольным, ён мусіць адамсьціць сьмерць свайго бацькі, нашу паняверку... мусіць змыць пляму з нашага народу і нашага роду!"

Вочы яе загарэліся агнём рашымасьці й веры ў свае сілы. Падпершы рукою сваю галаву, яна раптам задумалася і сьлёзы памалу пачалі зьнікаць з яе твару.

Доўга меркавала яна штосьці ў сваёй галаве. Часамі яна нават пачынала штосьці гаварыць, паказывала нешта рукамі, але за часіну йзноў сьціхала, каб аддацца яшчэ большым думкам.

Звольна, бяз сьпеху цячэ й сунецца час. Ён не сьпяшаецца й ня рвецца нікуды. Няма дзела яму да думкі й гора князя Вітаўта і Ганны княгіні; страх вераломства і дзікасьць Ягайлы яго ня пужаюць, ня вабяць, ня смуцяць. Паступкі ўсіх ён асудзіць і ацэніць, у вольным бегу выдасьць свой справядлівы прысуд і ў сэрцы народу сьлед розны пакіне.

Змучаны ходкай даўгою па кароткай каморы, Вітаўт прысеў на пасьцель і цяжка ўздыхнуў.

Ня доўга аднак аддыхалася князю.

— „Дайце мне волю, дайце мне меч!"... ускрыкнуў ён за часіну. „Я пакажу вам, дзе сіла і хто з нас радзіўся быць князям і вольнаму люду быць гаспадар!"...

Як сагнёны ў буру дуб малады ў момант адзін горда й сьмела прастае свой стан і ў сіле й красе йзноў станавіцца ветру супроціў, так у момант адзін падняўся з пасьцелі Вітаўт і вокам арлiным зглянуў у ваконца малое.

— „Княжа мой мілы, ня там твой ратунак—ваконца за мала, а краты таўстыя і старожа ля іх ходзіць пільна... Ратунку шукаць ты павінен праз дзьверы"... пачуў ён спакойны голас княгіні Ганны ў сябе за плячыма.

—„Якім-жа спосабам, ці яны больш слабыя за гэтыя краты, ці старожа каля іх вартуе ня пільна?... спытаўся Вітаўт, адвярнуўшыся да жонкі.

—„Пойдзем сядзем, аддыхні, раскажу табе ўсё, што прыдумала я ў галаве сваёй бабскай, можа што й з гэтага будзе карысна табе"...

Вітаўт паслушна пайшоў за жанчынай, узноў усеўся ён на пасьцелю і пільна й уважна пачаў яе слухаць.

Плян Княгінін быў просты, а словы надта шчыры, каб ім не наверыць, каб яны не пранялі чыюсьці душу. І Вітаўт ім веры́ў.

Натхнёныя словы жанчыны, як дзіўныя лекі, цяклі яму ў душу, гаілі ўсе раны, дадавалі сілы, будзілі ўзноў надзеі на лепшую долю на славу, на шчасьце...

І Вітаўт ажыў, узноў ускочыў з пасьцелі, уперад і ўзад захадзіў па каморы.

„Добра гэта... усё гэта добра, але што будзе з табою, як я ўцяку, як ты тут адна застанешся?“...

— „Ня думай аб гэтым, — сёдзячы тут, ты й мне не паможаш і сам згінуць можаш... Будучы вольным, ты й мне скарэй волю здабудзеш, а так хто ведае, што чакае цябе... Ягайлу ня вер — успомні яго прысягу, якой заманіў ён цябе ў свой табар... успомні й бацьку свайго Кейстута“...

Нічога не адказваў Вітаўт жонцы на гэта. У цяжкім змаганьні паміж розумам і сэрцам хадзіў ён цяпер па гэтай каморы і важыў свой лёс.

Цяжка кідаць у небясьпецы жанчыну, якая дала так многа радасных часінаў, яшчэ горы цяжка ваяку гінуць у цеснай каморы, без мяча ў руках, не на борздым кані...

З дзьвюх бед чалавек стараецца выбраць сабе меншую; кожны ідзе па дарозе, якая суліць яму найболі надзеі і скорае шчасьце.

Вітаўт знаў ужо Ягайлу, знаў з горкага досьледу на сабе самым і долі бацькавай, чаго ён мог ад яго спадзявацца?...

Ен падыйшоў да жонкі і, усё роўна як-бы разьвітуючыся, пачаў да яе прыглядацца. Пагляд гэты адчула жанчына сваім далікатным сэрцам. Страшна ёй стала аставацца аднэй у гэтай каморцы, дзе кожную часіну чакаў яе невядомы лёс. Сэрца забілася й затрапятала, быццам хочучы сказаць, што яна ўжо відзіць яго апошні раз і ёй захацелася плакаць. Аднак, сабраўшы ўсе свае сілы, яна перамагла свой жаль, праглынула сьлёзы, што давілі яе, і, як-бы ні ў чым ня бывала, спакойна спытала:

— „Ну што, рашыўся?“...

— „Але“...

— „Ну й памажы табе Божа“ дадала яна ціха, і, падняўшы правую руку, заціснутымі ў кучу трыма пальцамі палажыла на яго галаву знак усходняга хрысьціянства і пасьпешна адхінулася ў бок, каб муж ня бачыў сьлёз, што мімаволі навярнуліся ў яе на вачох.

За маленькім закратаваным ваконцам зловарожна завыў і заенчыў вецер. Жанчына ўздрыгнула і, быццам шукаючы сабе сілы й гарту ў гэтым дужым мужчыне, прыціснулася да яго ўсім сваім целам.

Раптам за дзьвярыма каморы пачуўся стук і звон адмыканых замкоў. Дзьверы з скрыпам адчыніліся і на парозе паказаліся дзьве высокія, здаровыя, русыя смаленскія дзяўчыны—слугі княгіні Ганны. Штодзенным сваім звычаям прыйшлі яны слаць пасьцелю княгіні й князю. Як толькі дзяўчаты праступілі парог, дзьверы за імі з бразгам зачыніліся. Дзяўчаты, як і кожны дзень, засталіся на якісь час у князеўскай каморы.

Сягодня чамусьці дзяўчаты былі невясёлыя; якоесьці гора застыла ў іх на твары. Пільнае вока княгіні дагледзіла гэта нават і ў тым густым змроку, які што хвіліну то ўсё гусьцей і гусьцей засьціляў камору.

— Што з вамі красуні?“... спытала яна іх.

„З намі нічога, але кругом ходзяць чуткі, што хітры вераломны Ягайла проці цябе, княгіня, і князя Вітаўта замышляе яшчэ больш штосьці нядобрае“... адказала адна з іх.

—„А вам нас шкада?“

—„Ці-ж ты, княгіня, нас аб гэтым пытаць яшчэ маеш?“

— „А ці хацелі-б вы памагчы князю ўцячы?“...

„Загадай, княгіня ясная, ці ты князь — усё будзе зроблена, хоць-бы за гэта нам жыцьцё аддаць прышлося“... адказалі дзяўчаты ня думаючы і вочы іх загарэліся агнём рашучасьці й веры ў свае сілы.

„Дзякую вам“ адказаў ім Вітаўт. „А ты крывіцкі народзе, народ, які не здраджаеш мяне і ў гэтай каморы, ведай, што й я цябе ня здраджу ніколі... Калі лёс мне судзіў пазнаць яшчэ волю і даць мне ў рукі меч, я цябе ўзьвялічу й услаўлю; станеш ты ў красе й у сіле першы між народаў Усходу, а велічай і блескам сваім асьлепіш іх усіх!“...

* * *

Вецер вые стогне. Ліпкі сьцюдзёны дождж з сілай хлешча па стрэхах і сьценах, паўзе за каўнер, мочыць бяз літасьці ногі. Цемра густая навокал, хоць выкалі вочы.

Прыкра ў такую пару быць на варце й сланяцца каля сьценаў замку з кута ў куток. Хоць-бы скарэй прайшлі дамоў служанкі Вітаўта. Тады хоць на часінку можна-б было схавацца кудысь пад застрэшак.

Але вось наастатку скрыпнулі дзьверы каморы, у якой сядзіць князь Вітаўт. З іх адна за аднэй, як заўсёды вольнай хадой, вышлі дзьве жанчыны і, кутаючыся ў шырокія хусткі ад наляцелага ветру, прайшлі моўчкі міма старожы.

Прывычная старожа да гэтых жанчынаў. Прыход іхні ў камору князя тут нікога ня дзівіць, а выхад мала трывожыць. Без агляду прапусьцілі яны іх міма сябе.

З бразгам зачыніліся дзьверы ў каморы і ў браме. У замку ўсё заціхла й заснула.

* * *

Сьпяць прысланіўшыся да сьцяны вартаўнікі ля каморы, дрэмле й варта на вежах, нікому з верных Ягайлавых слуг і ў галаву ня прыходзіць, што той, каго пільнаваць ім так срога прыказана, ужо далёка за замкам.

Раптам сярод скавыту ветру і шуму дажджу пачуўся тупат конскіх ног і пад браму пад'ехаў пасланец Ягайлаў.

Пільная справа ня церпіць адкладу. Толькі што лёгшага спаць Прокшу паднялі з пасьцелі, разбудзілі й Мосьця.

Пры сьвеце лучыны чытаюць яны загад Ягайлаў і дзікая ўсьмешка на твар ім прыходзіць.

— „Будзе ад князя Ягайлы ўзноў нагарода" думае кожны з іх.

Прачыталі верныя слугі пісьмо, узялі вяроўку і пайшлі ў камору Вітаўта.

Дарэмна ўся радасьць, дарэмна стараньне. На пасьцелі ў каморы ляжаць дзьве жанчыны — княгіня Ганна і служанка яе.

Шум, гам і трывога паднялася па замку; на ўсе бакі рассыпаліся людзі шукаць Вітаўта. Ні вецер, ні дождж ім ня страшны ўжо болі.

Усю ноч, як нячысьцікі якія, кружыліся з запаленымі смальнякамі ваякі па сьцежках і дарогах, каб назаўтрае мокрым і чуць жывым вярнуцца ў замак з пустымі рукамі.

* * *

Вітаўт праз пушчы й балоты йшоў зьбіраць новае войска на бой з крывадушным Ягайлам.

У Гр—віч.

# З Беларускае Культуры.

Аб высокасьці культуры Літоўска-Беларускай дзяржавы сьведчыць вялікае разьвіцьцё беларускага друку. Першая друкаваная беларуская кніга у 1483 (Цьветная Тріодь—друкавалася ў Кракаве), другая у 1492 (Актоіх), і ў 1517 г. — першая Біблія, тады як маскоўская першая друкаваная кніжаа зьявілася толькі 1573 г., знача праз 90 гадоў пасьля беларускае!

Вельмі рана зьявіліся і беларускія друкарні. У Кракаве беларуская друкарня пачала працаваць у 1483 годзе; польская на 23 гады пазьней, у 1505 годзе; у Вільні беларуская друкарня існуе з 1525 году, а польская з 1576 г. — 51 год пазьней. У Маскве друкарня пачала працаваць з 1563 году, — на 80 гадоў пазьней за беларускую друкарню.

# Аб апошніх падзеях у Віл. Беларускай Гімназіі.

**(Комунікат Пэдагогічнай Рады Віленскай Беларускай Гімназіі).**

(Гл. № 2 (10) „Бел. Зарніцы").

### 7. Выдаленьне вучняў Куратарам Шк. Вокругу.

Аднак, меры ўнармаваньня школьнага жыцьця, прынятыя Пэдагогічнай Радай супольна з Бацькоўскім Камітэтам на засяданьні 10 сьнежня, як аказалася пасьля, былі ўжо спозьненыя з прычыны падзеяў, зьвязаных са зьездам Т-ва Беларускай Школы. Пасды Дварчанін і Валынец на свой мітынг 11 сьнежня дапусьцілі старэйшую моладзь гімназіі, і самачынны „дэлегат" ад вучняў прачытаў прыгатаваную некім недарэчную „дэкларацыю", дзе дамагаўся звальненьня з гімназіі палову вучыцялёў, жадаў выкіненьня з праграмы гімназіі навукі рэлігіі, абвяшчаў шкодай для беларускае справы атрыманьне гімназіяй правоў і матуры і г. д.

Ня гледзячы на тое, што памянёныя пасды, бывшы самі пэдагогамі, разумелі добра ўсе шкадлівыя для вучняў вынікі гэткага выступленьня, яны ня толькі ня ўстрымалі іх, але на'т пасол Дварчанін прыняў ад вучня прачытаную ім „дэклярацыю".

Гэтае выступленьне вучня гімназіі адбілася дужа цяжка на лёсе школы, на лёсе тэй групы моладзі, якая неаглядна паддалася намовам нейкіх закулісных палітыканаў.

Адміністрацыйная і школьная Улада, будучы зусім дэтальна паінфармавана аб мітынгу пасла Дварчаніна і вучнёўскай рэзолюцыі, праз сваіх агентаў — учаснікаў мітынгу, умяшалася ў справы гімназіі, і такім чынам кіраваньне жыцьцём школы перашло з рук Пэдагогічнае Рады да дзяржаўнае школьнае Улады, якая загадам Куратара Віленскага Школьнага Вокругу ад 18.XII 1928 г. і прыказала неадкладна звольніць з гімназіі наступных вучняў:

Таўпеку Уладзіміра, Урбановіча Язэпа, Лукашыка Васіля, Кабушку Уладзіміра, Міско Якуба, Махляра Барыса, Засіма Піліпа, Кажанава Сяргея, Шалешу Івана, Шыцька Івана, Ігнатовіча Аляксандра, Кравецкага Хаіма, Кравецкага Моўшу, Шчаснага Уладзіміра, Ханяўку Часлава, Баярчука Вацлава і Тарасюка Міхала.

Лік гэты быў яшчэ павялічаны дадатковым загадам Куратара, згодна з якім былі звольнены: Бакач Пётра, Жураўлёў Сяргей, Давідовіч Іван і Скурка Зоя.

### 8. Становішча Пэдагог. Рады.

Па атрыманьні гэтага загаду і паведамленьні вучняў, сп. аб. Дырэктара гімназіі гр. Міхалевіч неадкладна склікаў экстрэннае засяданьне Пэдагогічнае Рады, якая між іншым вынесла такую пастанову:

„Заслухаўшы загад п. Куратара Віл. Шк. Вокругу з дня 18/XII 1928 г. за № II—46338-28 аб звальненьні 17 вучняў гімназіі, пастанавіла: прыняць да ведама і адначасна зьвярнуцца да п. Куратара і п. Віленскага Ваяводы з просьбаю аб дазволе Пэдагогічнай Радзе прыняць назад усіх звольненых вучняў, прадстаўляючы да гэтага наступныя мотывы:

1. Пэдагогічная Рада глыбока пераканана, што далёка ня ўсе закіды адміністрацыйнае ўлады, на падставе каторых загадана звольніць памянёных вучняў, адпавядаюць запраўднасьці.

2. што Пэдагогічная Рада сама ўважліва сочыць за павядзеньнем сваіх вучняў і ў прыпадку неабходнасьці прыймае адпаведныя меры,

3. што па абвешчаньні вучням рашучай пастановы Пэдагогічнай Рады з дня 10 сьнежня г. г. констатуецца радыкальная зьмена ў школьным жыцьці гімназіі, не выключаючы выдаленых згодна з загадам Куратара вучняў, якія абсолютна падпарадкаваліся вымогам школьнае дысцыпліны,

4. што на вуч. Тарасюка Міхала за яго праступак на лекцыі п. Александровіч Пэдагогічнай Радай ужо была наложана адпаведная кара (дачаснае выдаленьне з гімназіі), якую ён адбыў, і пасьля гэтага абсолютна ніякіх праступкаў за ім не заўважана,

5. што пэдагогічныя меры ўплыву на вучняў, якія прымяняе Пэдаг. Рада, зьяўляюцца зусім дастатачнымі, меры-ж адміністрацыйныя зьяўляюцца наагул непажаданымі ў школе: тым балей, што, як відаць з пастановы супольнага засяданьня Пэдаг. Рады і Бацькоўскага К-ту з 10 сьнежня г. г., кіраўнічы апарат школы можа знайсьці ў сабе дастастатачна сілы, каб выкінуць са школы самым няшчадным спосабам той элемэнт, які бы захацеў выкарыстываць школу для нейкіх іншых мэтаў,

6. што ў ліку выдаленых вучняў ёсьць 2 вуч. VIII клясы (Ханяўка і Таўпека). для якіх выдаленьне са школы напярэдадні сканчэньня яе зьяўляецца асабліва жорсткім,

і 7) што ўрэшце, Пэдагогічная Рада ня можа так жорстка аднасіцца да моладзі, якая ў большасьці выпадкаў робіць тыя ці іншыя недазволеныя чыны несьвядома, а выключна пад уплывам і па намове людзей, ня зьвязаных са школаю, якія сьвядома стараюцца ўцягваць моладзь у сфэру свае дэструкцыйнае працы, і што ўвесь, такім чынам, цяжар адказнасьці бязумоўна падае на іх".

## 9. Захады аб павароце выдаленых вучняў і перашкоды ў гэтым.

На тым-жа засяданьні Пэдагогічнае Рады былі атрыманы заявы ад усіх звольненых вучняў, дзе яны прасілі Пэдагогічную Раду заступіцца за іх перад Уладаю і дабіцца паўторнага іх прыйма ў школу.

Гэта была зусім зразумелая незалежная акцыя самой моладзі, унутраны голас якое падказваў ёй зыйсьці з таго няправільнага шляху, на які яе пхалі нейкія варожыя для школы сілы. Аднак, праз ноч нейкая рука ізноў здолела закруціць мазгі гэтым дзецям, бо ўжо з самага раньня на другі дзень, 20 XII, не зважаючы на катэгорычную забарону Дырэктара, яны ўварваліся ў 8-ую клясу, дзе ў той час адбывалася лекцыя, і спынілі заняткі. Ніякія довады настаўнікаў, што такім сваім паводзеньнем яны толькі ўтрудняць пазыцыю дэлегацыі, якая ў 12 гадзін мела йсьці ў гэтай справе да Ваяводы і Куратара, не памаглі, і звольненыя вучні адмовіліся пакінуць памяшчэньне гімназіі да таго часу, пакуль яны ўсе ня будуць прыняты назад у школу.

У той час, як дэлегацыя Пэд. Рады і Бацькоўскага К-ту у складзе: гр. Астроўскага, Кэпеля, Сакаловай, Выслоуха і Міхалевіча была ў Куратара і Ваяводы, паліцыя, якая ад мамэнту выдаленьня вучняў пільна наглядала за імі, увайшла за імі ў памяшчэньне гімназіі, арыштавала іх і адправіла ў арэштны дом. Ізноў прышлося прадстаўніку Бацькоўскага К-ту зварочвацца да Ваяводы з просьбаю аб выпушчэньні арыштаваных былых вучняў. Просьба яго была ўважана, і ўсе арыштаваныя вучні ў той-жа яшчэ дзень былі праз паліцыю адвезены да іх бацькоў і здадзены ім пад расьпіскі.

Так сумна для моладзі скончылася акцыя, у якой, зразумела, яна была толькі сьляпым аружжам у руках няўхопных і безадказных элемэнтаў.

Дзякуючы захадам Бацькоўскага К-ту і Пэдагогічнай Рады, адзін з звольненых вучняў VIII к. Ч. Ханяўка прыняты назад у гімназію, што-ж датычыць рэшты, дык ізноў-жа, дзякуючы намове сваіх няпрошаных „апякуноў", час свайго паваротў у школу яны самі сабе аддаляюць. Як вядома, 11 студзеня большасьць звольненых вучняў прыехала назад у Вільню і пад вонкавым уплывам імкнулася выклікаць сярод вучняў Віленскае Гімназіі школьную забастоўку. Зразумела, рэшта школьнае моладзі на гэта не пайшла, а звольненыя вучні гэтым толькі ўтруднілі пазыцыю тых хто шчыра хацеў-бы іх бачыць ізноў у школе за навукай. На паўторную просьбу прадстаўнікоў Пэдагог. Рады, Куратар адказваў, што ён зусім ня хоча зачыняць дзьверы школы перад моладзьдзю і ня будзе чыніць перашкодаў, каб праз нейкі час, як

унармуецца жыцьцё школы, даволіць звольненым вучням ці то пaступіць назад у школу, ці то дапусьціць іх да экзаменаў (VIII кл.) экстэрнам у тым прыпадку, калі гэты час яны займуцца запраўды навукай і ня будуць лезьці ў справы, да якіх яшчэ не дарасьлі

З гэтае заявы вышэйшага прадстаўніка Школьнае Улады ў краю відаць, што справа звольненых вучняў не прадстаўляецца так трагічна, як гэта некаторым здаецца. Усе яны ўжо добрыя дзяцюкі, і большасьць з іх здольныя, а дзеля гэтага пры жаданьні яны запраўды ня страцяць на'т году. Хаця ў хаце займацца шмат цяжэй.

Акром звольненых Куратарам 20 вучняў Пэдагогічная Рада 20 і 21 сьнежня, выконываючы сваю пастанову з 10X/II, звольніла за сьвядомае і зласьлівае непадпарадкаваньне загадам настаўнікаў і Дырэктара гімназіі двух вучняў VII кл. Жыткевіча Івана і Барыса Васіля.

**10. Нарманаваньне школьнага жыцьця.**

У сувязі з надыходам Каляд і разьездам вучняў на сьвята да бацькоў, Пэдагогічная Рада разьглядзіла пасьпехі ў навуках усіх вучняў і зрабіла пастанову, у выніку якое з малодшых клясаў па матывам чыста пэдагогічным (за непасьпяваньне ў навуках) адпраўлены да бацькоў і звольнены з гімназіі, як яе стыпэндыяты, наступныя вучні: Міско Іван, І, Міско Іван II, Мазоль, Сіцько Мікалай, Тарасюк Юрка і Іскрык Сяргей.

Гэтую меру Пэдагогічная Рада будзе тасаваць і ў будучым да ўсіх тых, хто карыстаючыся з стыпэндыі ці дапамогі гімназіі і дабрадзейных устаноў, будзе дрэнна вучыцца, бо ўважае, што ня мае моральнага права марнаваць грошы на тых, хто ня прыносіць ніякае карысьці ані сабе, ані сваім бацькам, ані грамадзянству.

Пэдагогічная Рада
Віленскае Беларускае Гімназіі.

---

## Родная Школа.

Родная беларуская школа — гэта сэрца нашага народу. Калі перастане яно біцца ў арганізьме, тагды ня стане й самага арганізму. А дзеля таго ўсе мы, беларусы павінны заўсёды дадаваць новых сілаў, каб яно магло працаваць, ажыўляць і падкрапляць увесь нацыянальны арганізм.

Кожны беларус і беларуска мусяц дбаць аб тое, каб беларускія дзеці хадзілі толькі да беларускіх школаў Колькі-б ахвяраў, колькі-б працы ні палажылі, а кожны беларус і беларуска павінны дабіцца ад школьнай улады, каб у іхным мястэчку, вёсцы была чыста беларуская школа.

# ХРОНІКА.

## Працэс „Грамады.

16 сакавіка 1929 г. у Віленскім Апэляцыйным судзе быў абвешчаны прысуд у справе беларускай „Грамады". Апэляцыйны суд адкінуў II частку артыкула 102 (збройнае паўстаньне), як гэта вясной 1928 г. прызнаў Акружны суд. Паслам сойма грам. Тарашкевічу, Рак-Міхайлоўскаму, Мятле і Валашыну кара зьменшана з 12 да 6 гадоў. Акінчыцу і Бурсэвічу з 8 да 6 гадоў зусім апраўданы, засуджаныя Акружным Судом на 4 5 гадоў наступныя асобы: Баліцкі, Драгун, Патапчук, Шчыглінскі, Здавюк, Беламазы і Якубчык.

Не ўважана так-жа апэлацыйная скарга пракурора ў адносінах да дырэктара беларускае гімназіі А. Астраўскага, знанага барацьбіта за нацыянальнае адраджэньне беларускага народу Антона Луцкевіча, вучыцеля бел. гімназіі Я. Шнаркевіча, кіраўніка глыбоцкага аддзелу белар. каапэрацыйнага банку А. сакалоўскага і грам. Шэвеля. Усе гэтыя асобы былі Акружным Судом апраўданы, але пракурор не згадзіўся з гэтым і унёс апэляцыйную скаргу, дамагаючыся іх засуджэньня, аднак-жа Апэлацыйны суд дамаганьне пракурора адкінуў і зноў вышэйпаіменаваных асоб апраўдаў.

Рэшце засуджаным Акружным судом ад 3 да 6 гадоў зьменшана да 2-3 гадоў; частка іх звольнена, а тым, якім яшчэ застаецца сядзець па некалькі месяцаў, вызначана kaucja па 300 zł. па ўнясеньні якой яны таксама могуць выйсьці на волю.

Што датычыць былых паслоў, а таксама Акінчыца і Бурсэвіча—дык іх прыяцелі праймаюць усе крокі для неадкладнае палёгкі іх становішча.

Ужо Акружны суд, апраўдаўшы з 56 абвінавачаных у справе „Грамады" 19 асоб, паказаў, як беспадстаўна паліцыя кідае беларусоў у вастрогі; цяпер прысуд Апэляцыйнага суда, апрадаўшага засуджаных Акружным судом 37 чалав. яшчэ 7 асоб г.-зн. 20% і значна зьменшыўшага кару ўсім іншым лішні раз сцьвярджае беспадстаўнасьць трыманьня беларусаў гадамі по вастрагам.

## Сьмерць жонкі А. Луцкевіча.

У палове сакавіка беларускае грамадзянства з вялікім жалям хавала неспадзявана трагічна памершую жонку ведамага беларускага культурнага дзеяча Ан. Луцкевіча—доктара Зофію Луцкевіч. Трагічная сьмерць доктара З. Луцкевіч бяссумліва знаходзіцца ў сувязі з тым перасьледаваньнем, якое перажываў А. Луцкевіч у справе „Грамады". —

## Вечарына у Віленскай Духоўнай Сэмінарыі.

15 сакавіка г. г. у Віленскай Дух. Сэмінарыі адбылася вакальна-Музыкальная вечарына. Хорам і салістамі былі выканаНы польскія, беларускія, украінскія і расейскія песьні, а духавым і струнным аркестрам выкананы рожныя музыкальныя творы. Хор рабіў добрае ўражаньне, але ў ім чамусьць ня бралі ўдзел вучні малодшых клясаў.

Асабліва прыемнае ўражаньне рабіў вучнёўскі аркестр, які за кароткі адносна час дасягнуў запраўднага мастацтва. Публікі была поўная саля. Вечарыну ўшанаваў сваею прысутнасьцю. Яго сьвяшчонства Архіяпіскап Хведосій.

# Пісьмо у Рэдакцыю.

Рэдакцыя „Беларускае Зарніцы“ атрымала ад Лідзкага Старосты ліст ад 20.II 1929 г. за № 1297/III наступнага зьместу:

У рэдакцыю
часопісі „Беларуская Зарніца“
Вільня, вул. Летняя 7.

На падставе артыкулу 30 загаду Прэзыдэнта Р. П. з дня 10 траўня 1927 г. аб праве друку (Дз. Уст. № 45, паз. 398) прашу спраставаць у найбліжэйшым нумары „Беларускае Зарніцы“ артыкул п. т. „Маламажэйская царква“, зьмешчаны ў № 6 з дн. 15.XI 1929 г. гэтае часопісі, а іменна:

1) Маламажэйскае царквы ў Мураванцы каталікі не „захапілі“, але яна, як перарабленая з касьцёлу знаходзячаяся пад кіраўніцтвам дзяржаўнае ўлады, дня 9.X 1928 г. была мною адчынена і аддадзена каталікам, на падставе загаду Міністэрства Вызнаньняў і Асьветы ў паразуменьні з Міністэрствам Працы.

2) Лідзкі праваслаўны благачынны, — а. Уладзімір Жданаў быў запрошаны мною для прыняцьця маемасьці (абразоў, судзінаў, кніг і г. д.) паходзячай з часу карыстаньня сьвятыняй праваслаўнымі.

На падставе арт. 33 вышэй азначанага загаду прашу пералажыць вышэйпададзенае на беларускую мову і зьмясьціць у бліжэйшым нумары „Беларускае Зарніцы“, прыслаўшы мне экзэмпляр нумару, у якім гэта будзе зьмешчана.

Староста
(—) Багаткоўскі.

---

## Зьмест.



Рэдактар-выдавец: сьвяшч. А. КОЎШ. Друк. Я. ЛЕВІНА Вільня, Нямецкая 22